**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№36 (596)**
**8 верасня 2011 года.**
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Час выбіраць бульбу!



## Браслаўскі раён

# У пошуках натхнення

■ Станіслаў Раманчук

**Сапраўдным турысцкім краем у Беларусі стаў Браслаўскі раён дзякуючы сваім водным багацям і прыгажосці прыроды.**

І гэтыя мясціны прываблiваюць не толькі аматараў актыўнага адпачынку, але і людзей творчых. Спецыяльны міжнародны маладзёжны мастацкі пленэр "Сацыяльнае мастацтва – на дружбу народаў" сабраў днямі на хутары Калеснікі прадстаўнікоў 6 краін. Акрамя беларусаў, у палатачным лагеры жылі будучыя мастакі, скульптары і архітэктары з Літвы, Германіі, Італіі, Украіны і Расіі. 30 студэнтаў мастацкіх ВНУ з гэтых краін кожны паасобку падрыхтавалі творчы макет свайго праекта. У выніку з'явілася арыгінальная мастацкая кампазіцыя вышынёй 6 метраў пад назвай "Вавілонская вежа". Незабыўныя ўражанні ад знаёмства з пачынаючымі творцамі пакінуў прыезд у лагер навучэнцаў дзіцячай школы мастацтваў з Браслава. Затым мастацкі пленэр прадоўжыў сваю працу ў беларускай сталіцы. Крыху іншы маладзёжны лагер напрыканцы лета на працягу 10 дзён працаваў таксама пад адкрытым небам і на тэрыторыі Бярэзінскага біясфернага запаведніка. Ён меў сваёй мэтай дапамагчы маладому чалавеку глыбока ўсвядоміць сваё прызначэнне ў жыцці, сутнасць быцця на лоне жывой прыроды. Маладыя евангелісты з Германіі і сталічная арганізацыя "Ліга добраахвотнай працы моладзі" спачатку пазнаёміліся з гэтай запаведнай тэрыторыяй. У пошуках жыццёвага азарэння яны ўстроілі сабе сапраўднае выпрабаванне і правялі, не ўжываючы ежу, чацвёра сутак і наогул адмовіліся ад палатак. За іх бяспекай сачылі супрацоўнікі прыродаахоўнай установы.

## Пастаўскі раён

# У лідарах жніва ... пенсіянер

■ Кастусь Александровіч

**Сёлетняе жніво на Віцебшчыне праходзіла без асаблівага напружання, паколькі ў гаспадарках вобласці сур"ёзна абнавіўся новай тэхнікай парк збожжаўборачных камбайнаў.**

Але якія б ні былі высокапрадукцыйныя машыны, лёс вырашчанага ўраджаю ўсё ж вырашалі людзі. У Пастаўскім раёне лідарам уборкі і першым камбайнерам-тысячнікам стаў Станіслаў Марціновіч з вядомага сельгаспрадпрыемства "Навасёлкі-Лучай", які намалаціў 1114 тон збожжа. Адметна тое, што Станіслаў Міхайлавіч даўно на заслужаным адпачынку, ён з'яўляецца ваенным пенсіянерам і мог бы жыць у горадзе. Аднак вырашыў перасяліцца бліжэй да дому, асеў у маляўнічых ваколіцах вёскі Лучай. Яго бацька ў маладосці быў нядрэнным механізатарам і, відаць, гены перадаліся і сыну. У папярэднія гады Станіслаў рашыў сесці папрацаваць на старэнькім камбайне. Справы пайшлі добра, і ў мінулым годзе гаспадарка перадала новы збожжаўборачны камбайн "Гомсельмаша" КЗС-1218, а ваенны пенсіянер стаў адным з герояў жніва на Пастаўшчыне і ўдзельнікам абласных "Дажынак". Сёлета Станіслаў ў працоўным суперніцтве абышоў знакамітага свайго калегу Сяргея Каралёнка, пераможцу рэспубліканскіх "Дажынак". Дарэчы, нядрэнныя намалоты паказалі і яшчэ 10 камбайнавых экіпажаў з гэтай праслаўленай гаспадаркі, дзе атрымалі ўраджайнасць 38 цэнтнераў збожжа з гектара, першымі завяршылі жніво і намалацілі на трэць болей,чым летась – амаль 8200 тон збожжа.

## Мёрскі раён

# Каб розуму набрацца

■ Чэслаў Якубовіч

**Заўважана, што калі падлетку няма чым заняцца, то ён можа апынуцца ў дрэннай кампаніі, стане нахабна сябе паводзіць і ўвогуле можа трапіць ў лік малалетніх правапарушальнікаў.**

Але найлепшым выхадам для такой маладой энергіі з'яўляецца карысная праца. Такім правілам кіраваліся ў Мёрскім раёне, калі напрыканцы летніх канікулаў у жніўні арганізавалі ў вёсцы Мілашова палатачны лагер "Дружба" кругласутачнага знаходжання для праблемных юнакоў і дзяўчат, а таксама для падлеткаў са шматдзетных сем'яў. У гэты час у сельскай мясцовасці спраў хапае, і было чым 30 маладых людзей заняць. Яны навадзілі парадак на мясцовых могілках, добраўпарадкавалі тэрыторыю мясцовага парку, там прыемна стала знаходзіцца. Аказвалі члены маладзёжнага летніка і канкрэтную дапамогу па гаспадарцы ветэранам вайны, састарэлым адзінокім вяскоўцам. Канешне, быў і вольны час для актыўнага адпачынку, кожны дзень ладзіліся нейкія культурныя і спартыўныя мерапрыемствы, сустрэчы з цікавымі людзьмі. Лагерная змена праляцела хутка, і новы навучальны год гэтыя дзеці пачалі з іншым усведамленнем свайго месца сярод акружаючых. У суседнім Браслаўскім раёне пайшлі па аналагічным шляху і цяжкіх падлеткаў сабралі ў сапраўдным ваенна-патрыятычным лагеры "Юны пагранічнік", дзе яны жылі ва ўмовах, набліжаных да пагранслужбы: з нарадамі, дзяжурствам па сталовай і нават удзелам у сапраўдных нарадах па ахове дзяржмяжы сумесна з воінамі.



# Лічба нумара

**40,1$ млрд** такім, па дадзеных статыстыкі, быў у першым паўгоддзі гэтага года агульны таваразварот Беларусі. Аднак гэта хутчэй засмучае, чым радуе, паколькі нічога сур'ёзнага ў лепшы бок у развіцці айчыннай эканомікі не назіраецца. Як і раней, мы не ўмеем весці сваю гаспадарку, паколькі адмоўнае знешнегандлёвае сальда па-ранейшаму ўнушальнае. Так, у студзені-чэрвені краіна прадала на экспарт сваіх тавараў і паслуг на 18,2 млрд. долараў.

Аднак за гэты перыяд у краіну завезлі ў асноўным прамежкавых тавараў, энерганосьбітаў і сыравіны на большую суму – 22,6 млрд. долараў. Няцяжка падлічыць, што адмоўнае сальда дасягнула 4,4 млрд. $ і дасягае 11 % ад агульнага аб'ёму гандлёвых аперацый. Эфектыўнасць гаспадарання такая, што на 1 долар прыходзіцца 11 цэнтаў страт. У выніку ўжо ўсе адчулі на сабе эканамічныя цяжкасці. А спецыялісты падлічылі, што рэальная заработная плата ў пачатку лета склала толькі 93,3 % выплачаных заробкаў у маі.

Пайшоў на спад і майскі гандлёвы ажыятаж. Ужо ў чэрвені беларусы купілі на 18,7 % тавараў і прадуктаў меней, чым у папярэднім месяцы. Аднак гэтаму здзіўляцца не прыходзіцца: з-за падзення даходаў і зніжэння ўзроўню жыцця панізілася пакупніцкая здольнасць насельніцтва. Многія сем'і абяднелі (асабліва ў глыбінцы) настолькі, што прыйшлося ўраду Беларусі пайсці на льготнае крэдытаванне закупак школьных тавараў з растэрміноўкай пад 10 % гадавых. Вось толькі яшчэ зусім нядаўна па такіх крэдытах беларусы што толькі ні набывалі: ад мяккай мэблі, бытавой тэхнікі да будматэрыялаў.

Увогуле, сёлетні 2011 год зойме асаблівае месца ў будучых падручніках навейшай гісторыі Беларусі. У пачатку года СМІ толькі і трубілі пра паляпшэнне сітуацыі ў эканоміцы, малявалі "залатыя горы" і светлыя перспектывы. На справе выйшаў сапраўдны абвал. За некалькі месяцаў народ перажыў дэвальвацыю беларускага рубля, рэкордны рост цэн, пакупніцкую паніку, пустыя полкі, валютныя цяжкасці. І што характэрна, людзі прадчуваюць, што і надалей будзе цяжка, чакаюць новай дэвальвацыі.

На фоне такіх чутак курс долара ў безнаяўных плацяжах у інтэрнэт-магазінах дасягнуў нерэальнай зусім, касмічнай велічыні – 10 тысяч бел. рублёў. Беларусаў пачалі рыхтаваць да таго, што цэны на харчаванне ў нас павінны чамусьці падняцца да ўзроўню расійскіх (інакш, маўляў, усё вывезуць) з-за адсутнасці граніц і адзінай мытнай прасторы. Пры гэтым "забываліся" казаць, што і зарплаты расіян намнога вышэйшыя за нашы. Пры чарговым паходзе ў магазін ужо не здзіўляе, што тыя ж яйкі за дзень выраслі ў цане на адну тысячу рублёў і болей .

Негатыўныя эмоцыі толькі ўзрастаюць пры паглядзе на новыя цэннікі на малако і мясапрадукты, хлеб. Куды ні пойдзеш, сутыкнешся з новымі цэнамі, а яшчэ з павышанымі тарыфамі на міжгародныя перавозкі і грамадскі транспарт. Пры гэтым спажыўцы заўважылі дэфіцыт свініны, ялавічыны, мяса птушкі ў гандлі і нават пустыя паліцы ў сталічных крамах. Адначасова прыкметна падаражэлі тканіны, медыкаменты, шпалеры, посуд і паслугі ЖКГ у ліпені (на 2,8 %). У сярэдзіне лета гадавая інфляцыя ўпэўнена перавысіла парог 40 %, праз месяц, у сярэдзіне жніўня, рост цэн у краіне дасягнуў 43 %.

На гэтым сумным фоне адзінае, што парадавала, – гэта рашэнне расіян нарэшце ўвесці для Беларусі паніжаючы каэфіцыент кошту на газ у 2012 годзе. Але гэта зусім не падарунак суседзяў, бо яны цалкам будуць валодаць газавай трубой і быццам выкладуць за яе нават 2,5 млрд. долараў. Аднак застаюцца сур'ёзныя праблемы ў нафтаперапрацоўчай галіны Беларусі, якая ўжо не можа прыносіць жаданую валюту краіне. Валюта нам вельмі патрэбна, каб выйсці з крызісу і не страціць золатавалютныя рэзервы. З улікам атрыманых крэдытаў "Беларуськалію" і продажу другой часткі акцый "Белтрансгазу", магчыма, удасца назапасіць нейкі рэзерв. Пытанне толькі ў тым, хопіць яго на год наперад альбо на карацейшы тэрмін з улікам рэальнай няпростай сітуацыі ў эканоміцы Беларусі?

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 08.09.11 | | | | пятн. 09.09.11 | | | | сб. 10.09.11 | | | | нядз. 11.09.11 | | | | пн.12.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +11 | +12 | +15 | +11 | +9 | +11 | +15 | +12 | +8 | +12 | +17 | +11 | +8 | +13 | +19 | +13 | +10 | +15 | +21 |
| Ціск, мм | 738 | 736 | 736 | 735 | 734 | 734 | 736 | 739 | 741 | 743 | 745 | 746 | 747 | 747 | 746 | 746 | 745 | 744 | 744 |
| Вільготнасць, % | 99 | 100 | 74 | 90 | 96 | 98 | 70 | 87 | 94 | 95 | 67 | 87 | 94 | 90 | 75 | 96 | 100 | 94 | 69 |
| Вецер м/сек | Ю 2 | С-З 3 | С-З 3 | Ю-З 2 | З 1 | С-З 3 | С-З 5 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 5 | Ю-З 2 | З 1 | Ю 1 | Ю 3 | Ю 2 | Ю-В 4 | Ю 3 | Ю 4 |
| | | 06:27 | 19:45 | | | 06:29 | 19:43 | | | 06:31 | 19:40 | | | 06:33 | 19:38 | | 06:35 | 19:35 | |
| | | 17:56 | 01:50 | | | 18:15 | 03:05 | | | 18:31 | 04:19 | | | 18:46 | 05:32 | | 18:59 | 06:44 | |

## Дзень за днём

**У краіне прынялі меры па абмежаванні росту кошту будаўніцтва жылля. Пасля згоды Беларусі прадаць газавую трубу "Газпраму" Расія рашыла ўвесці для нас паніжаны каэфіцыент формулы разліку цаны на газ. З-за эканамічных цяжкасцей у Мінску спыніла працу кожнае шостае маршрутнае таксі на экспрэсных маршрутах. У прымусовым парадку з новага году стануць вызваляць вуліцы гарадоў ад транспартных сродкаў, якія не эксплуатуюцца. Тым часам інфляцыя сёлета б'е рэкорды і набліжаецца да 50 %, стаўка рэфінансавання перавaліла за другі дзясятак.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** На фоне нулявога росту ВУП краіны ледзь не абанкруціўся вядучы банк Societe Generale пасля падзення за дзень яго акцый амаль на 20 %, але паніку ўдалося спыніць.

**Украіна.** Рашэнне улад арыштаваць экспрэм'ера Юлію Цімашэнку выклікала рэзкія пратэсты ў краіне, а таксама негатыўную рэакцыю і ў Расіі, ЗША, краінах Еўрасаюзу.

**ЗША.** Апеляцыйны суд краіны прызнаў антыканстытуцыйным закон аб абавязковым медыцынскім страхаванні, які актыўна падтрымлівае прэзідэнт Барак Абама.

**Англія.** Пасля арышту паліцыяй больш за 2 тысячы пагромшчыкаў краіна перагледзела нормы ўздзеяння на ўдзельнікаў вулічных акцый, спрасціла права выкарыстання спецсродкаў.

**Ліван.** Упершыню сюды ў складзе міратворчай місіі войск ААН прыбылі 3 беларускія вайскоўцы: афіцэр штаба кантыгенту і 2 ваенныя ўрачы шпіталя місіі ў горадзе Накура.

**Польшча.** Больш за 80 чалавек пацярпелі каля Лодзі пасля зыходу з рэек на вялікай хуткасці, 118 км/гадзіну, пасажырскага цягніка, машыніст быў затрыманы паліцыяй.

**Украіна.** Прэзідэнт Віктар Януковіч так і не здолеў дамовіцца з Расіяй аб зніжэнні цаны паставак "Газпрамам" газу, наспявае чарговая газавая вайна паміж суседнімі краінамі.

**ЗША.** Самай дарагой кампаніяй свету стала электронная фірма-вытворца камп'ютараў і плэераў Сціва Джобса "Apple" з капіталам 338 млрд. $, у ёй працуюць 35 тысяч чалавек.

**Латвія.** Сын славутай актрысы Віі Артманэ музыкант Каспарс Дзімітэрс дэманстратыўна адмовіўся ад латышскага грамадзянства пасля арышту банкам маёмасці за ўзяты крэдыт.

**Англія.** Сям'я рана памерлай поп-зоркі Эмі Уайнхаус вырашыла аддаць яе 3-павярховы шыкоўны дом у прэстыжным раёне Лондана пад бальніцу для рэабілітацыі наркахворых.

**Эстонія.** Пракуратура пацвердзіла, што, устроіўшы страляніну ў будынку Мінабароны, 57-гадовы расійскі-армянін Карэн Драмбян дзейнічаў адзін, ён меў тут грамадзянства.

**Японія.** З-за невыноснай гарачыні шпіталізавалі болей за 7 тысяч японцаў, краіна пачала адыходзіць ад наступстваў землятрусу і аварыі на АЭС, рост эканомікі склаў 5,7 %.

**Расія.** Самы паспяховы расійскі спявак Стас Міхайлаў (20 млн. $ даходу за год) ажаніўся ў другі раз у Францыі з былой жонкай вядомага футбаліста А. Канчэльскіса Інэ.

**Аўстрыя.** Знакамітаму артысту А. Шварцэнэгеру двойчы выпісалі штраф па 200 еўра за з'яўленне з цыгарэтай у роце ў аэрапортах аўстрыйскіх гарадоў Зальцбург і Грац.

**Шры-Ланка.** Па ініцыятыве Мінпрыроды краіны на востраве валанцёры сумесна з ваеннымі правялі першы ў гісторыі перапіс ... сланоў, якіх тут жыве 4 тысячы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Урад Індыі заявіў аб гатоўнасці набыць за 6-7 млрд. долараў 20-25 % акцый "Беларуськалію" з мэтай забяспечыць доўгатэрміновыя пастаўкі калійных угнаенняў.

**Мінск.** Нацбанк РБ пачаў прапрацоўку механізму аперацый па пераходзе ў гандлі з Кітаем на юань і ўзаемным абмене валют у эквіваленце 3 млрд. долараў згодна дамовы 2009 г.

**Мазыр.** З-за выплат 100 % у расійскі бюджэт экспартных пошлін на нафтапрадукты сітуацыя на мясцовым НПЗ прадаўжае пагаршацца, ён стаў стратным, як і ААТ "Нафтан".

**Мінск.** Па дадзеных Нацбанка РБ, беларусы зноў панеслі ў банкі наяўную валюту (на 61.8 млн. $ у ліпені), валютныя дэпазіты насельніцтва цяпер складаюць 3,5 млрд. долараў.

**Жодзіна.** Якасць машын БелАЗа раскрытыкаваў прэм'ер-міністр РБ Міхаіл Мясніковіч: кожная трэцяя мае заводскія дэфекты і саступае заходнім аналагам Камацу і Катэрпілар.

**Шклоў.** Аб'яднанне "Белая Русь", як заявіў тут на сустрэчы з актывістамі руху старшыня верхняй палаты парламента А. Рубінаў, рыхтуецца да пераўтварэння ў правячую партыю.

**Валожын.** Моцны лівень размыў дамбу, затапіла 82 дамы і 105 панадворкаў у райцэнтры, разбурыў 1 і пашкодзіў 2 масты, град знішчыў агароды, дарога на Вільню стала зімовай.

**Гомель.** Напярэдадні навучальнага года ў шэрагу раёнаў вобласці цяжка было дакупіцца школьных тавараў, бо многія з іх вывезлі з-за нізкага кошту ў суседнюю Расію.

**Маладзечна.** На працягу 5 бліжэйшых гадоў Беларуская чыгунка цалкам электрыфікуе участак пуці з Маладзечна да Вільнюса праз Гудагай у рамках IX транспартнага калідора.

**Бабруйск.** Расійская група кампаній "Гідраўлічныя машыны і сістэмы" набыла за 9,7 млн. $ 57 % акцый мясцовага машынабудаўнічага завода і пачне яго мадэрнізацыю.

**Салігорск.** На базе калійнага рудніка вырашылі пабудаваць пад зямлёй новы лячэбны корпус на 60 ложкаў унікальнай у свеце спелеабальніцы для лячэння хвароб дыхання.

**Гродна.** Паблізу знакамітай Каложскай царквы XII стагоддзя асвяцілі ўзвядзенне новага царкоўнага комплекса з нядзельнай школай, бібліятэкай, хрысцільняй.

**Вілейка.** Спецыялісты Мінпрыроды РБ правялі аналіз проб вады сіне-зялёнага колеру з мясцовага вадасховішча ў зоне актыўнага цвіцення водарасцей,так бывае штогод летам.

**Баранавічы.** Вечарам пасля выпіўкі і ўзнікшай спрэчкі сын моцна збіў сваю маці і выпіхнуў з пакоя, яе труп пад раніцу знайшоў сусед на падлозе ў калідоры жылога дома.

**Добруш.** Мясцовая кінавідэасетка запусціла першую на Гомельшчыне перасоўную 3D-кінаўстаноўку, яна і пад адкрытым небам дазваляе адкрыць цэлы кіназал на 200 месцаў.

# У Беларусі набыў моц Кодэкс аб адукацыі



■ **Анастасія Янушэўская,** *БелаПАН.*

**У першы дзень новага навучальнага года ў Беларусі набыў моц Кодэкс аб адукацыі. Ён быў падпісаны Прэзідэнтам 13 студзеня і накіраваны "на комплекснае і сістэмнае рэгуляванне грамадскіх адносінаў у сферы адукацыі".**

Кодэкс падраздзяляе адукацыю на асноўную, дадатковую і спецыяльную, а таксама ўпершыню ўводзіць паняцце "адукацыйныя праграмы". Ажыццёўлены падзел дакументаў аб навучанні і атрыманні адукацыі.

Уводзяцца новыя формы навучання, у прыватнасці, дыстанцыйнае навучанне для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Замацавана права ствараць ва ўстановах адукацыі класы або групы, у якіх навучанне ажыццяўляецца на замежнай мове. Акрамя таго, уносяцца змены ў школьную праграму: плануецца скарацiць колькасць гадзін на прадметы эстэтычнай накіраванасці.

Кодэкс прадугледжвае падпісанне дагавора на навучанне усімі студэнтамі ВНУ, а таксама навучэнцамі сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. У дагаворы будуць прапісаны правы, абавязкі і адказнасць студэнта і ВНУ, а пры неабходнасці — і работадаўцы.

Устанаўліваецца новы від дакумента аб адукацыі — дыплом даследчыка, які выдаецца па выніках навучання ў аспірантуры. Гэтая кваліфікацыя будзе прысвойвацца выпускнікам аспірантуры, якія паспяхова завяршылі курс навучання, але па нейкіх прычынах не змаглі абараніць кандыдацкую дысертацыю. Гэтая кваліфікацыя дазволіць яе ўладальнікам "різлічваць на асаблівыя пасады на рынку працы".

У Кодэкс унесены нормы, звязаныя з дысцыплінарнай адказнасцю навучэнцаў. Упершыню ўведзена паняцце "дысцыплінарны праступак навучэнца" і прадугледжаны падставы для прыцягнення яго да адказнасці. Сярод іх — спазненне або няяўка без ўважлівых прычын на заняткі, парушэнне дысцыпліны падчас адукацыйнага працэсу.

Згодна з дакументам, права грамадзян на адукацыю забяспечваецца развіццём сеткі ўстаноў адукацыі, захаваннем бюджэтнага фінансавання дзяржаўнай адукацыі і стварэннем умоў для атрымання адукацыі з улікам індывідуальных патрэб, здольнасцей і запытаў навучэнца, а таксама развіццём сістэмы крэдытавання грамадзян, якія атрымліваюць адукацыю на платнай аснове.

У Міністэрстве адукацыі сцвярджаюць, што ніякіх зменяў ў вучэбных планах у сувязі з Кодэксам сёлета не адбудзецца, паколькі гэтыя планы былі да яго ўваходжання ў сілу. На працягу года будзе праводзіцца маніторынг працы навучальных устаноў у рамках дзеяння Кодэкса, а праз год плануецца прыняць канчатковае рашэнне па асобных кірунках дзейнасці сістэмы адукацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Да ўзросшых эканамічных цяжкасцей у донара бюджэту вобласці ААТ "Нафтан" дабавілася яшчэ праблем пасля ўвядзення эканамічных санкцый з боку ЗША.

**Гарадок.** Кіраўніцтва вобласці выбрала мясцовае КУСХП "Паўночны" для абмалоту сімвалічнай мільённай тоны збожжа, а раён упершыню намалаціў болей за 50 тыс. тон зерня.

**Віцебск.** Запазычанасць аўтапаркаў "Віцебскаблаўтатранс" толькі за паліва перавысіла 3,5 млрд. рублёў, для зніжэння страт намечана Мінтрансам РБ скарачэнне маршрутнай сеткі.

**Браслаў.** Вядучай гаспадарцы краю, СВК "Маяк Браслаўскі" падчас паездкі старшыня Камітэта дзяржкантролю РБ А. Якабсон прапанаваў увайсці ў холдынг з мясакамбінатам.

**Лёзна.** Па праекце "Працоўны водпуск" капітальны рамонт дзіцячага сацпрытулка ў райцэнтры правялі 27 валанцёраў з Італіі, яны патрацілі на гэта 45 тыс. прывезеных еўра.

**Пастaвы.** Група бізнесменаў з Кітая зацікавілася цесным супрацоўніцтвам з мясцовым ільнозаводам, інвестары з Масквы прапанавалі набыць пакет акцый ААТ "Паставы-мэбля".

**Чашнікі.** Дзяржкамаёмасць РБ аб'явіла аб продажы 93 % акцый папяровай фабрыкі "Чырвоная зорка" за 10 млрд. пры ўмове захавання профілю дзейнасці па працягу 5 гадоў.

**Гарадок.** За незаконную здабычу дзікага кабана з незарэгістраванай стрэльбы раённы суд пакараў мясцовага жыхара штрафам на суму 4 млн. рублёў і 2 гадамі абмежавання волі.

**Докшыцы.** У адрозненне ад большасці гаспадарак краіны, у КУСХП "Порплішча" вельмі добра перазімаваў рапс, яго ўраджайнасць склала 26,7 ц/га.

**Глыбокае.** Каля набярэжнай возера Кагальнае ў цэнтры горада ўрачыста адкрылі першую частку дзіцячага гульнявога комплексу "Планета дзяцінства" па метадзе народнай будоўлі.

**Мёры.** Пры спробе вынесці са свайго прадпрыемства, ААТ "Мёрскі мясакамбінат", мясапрадукты на 3 млн. рублёў міліцыя каля 1 гадзіны ночы затрымала работніка завода.

**Ушачы.** У новым ацяпляльным сезоне стане забяспечваць цяплом дзетак новая кацельня, устаноўленая за 780 млн. рублёў у дзіцячым садзе аграгарадка Кублічы.

**Браслаў.** Мінпрыроды і НАН Беларусі прадставілі нацпарк "Браслаўскія азёры" і заказнік "Выгонашчанскі" на атрыманне статуса воднабалотных угоддзяў міжнароднага значэння.

**Віцебск.** У разгар сезону ФК "Віцебск" пакінуў галоўны трэнер Сяргей Бароўскі ў знак пратэсту з-за дрэннага фінансавання клуба, які можа з трэскам "вылецець" з эліты.

**Полацк.** На тэрыторыі раёна экспедыцыя археолагаў знайшла рэшткі кляштара бернардынцаў, у якім калісьці Францыск Скарына атрымаў пачатковую адукацыю.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*

# Макар Краўцоў

*Да 120-годдзя з дня нараджэння*

**18 жніўня 2011 года споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Макара Краўцова (сапраўднае імя Касцевіч Макар Мацвеевіч), паэта, публіцыста, перакладчыка, дзеяча беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Сёння гэтае імя ўспамінаецца не часта. А між тым Макар Краўцоў - своеасаблівая і яскравая постаць у гісторыі беларускага адраджэння.**

Нарадзіўся Макар Мацвеевіч Краўцоў 6(18) жніўня 1891 года ў вёсцы Баброўня Гродзенскага павета Гродзенскай губерні. Паходзіў з вялікай сялянскай сям'і, закончыў Галавацкую царкоўна-прыхадскую школу, а пасля заканчэння Свіслацкай настаўніцкай семінарыі ў 1910 годзе працаваў настаўнікам на Гродзеншчыне. З 1915 года знаходзіўся ў арміі, ваяваў прапаршчыкам на Паўночна-Заходнім, потым на Валынскім франтах. Узначальваў салдацкі камітэт 44-га армейскага корпуса Паўднёва-Заходняга фронту, ад якога абраны дэлегатам на Усебеларускі з'езд 1917года. У 1917-1919 гадах жыў у Мінску, працаваў настаўнікам у беларускай школе. У 1918 годзе ўступіў у беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў, апынуўся на яе правым крыле. Пасля ўтварэння Міністэрства беларускіх спраў у Літоўскім урадзе (1919) стварыў беларускія органы ўлады ў Сакольскім павеце Гродзенскай губерні. Са снежня 1919 года ўваходзіў у склад Беларускай вайсковай камісіі. Напісаў верш "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", які быў пакладзены на музыку У.В.Тэраўскім і стаў гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі. Апублікаваны гімн 30 кастрычніка 1919 года ў газеце "Беларусь" пад назвай "Ваяцкі гімн". Удзельнічаў у Слуцкім паўстанні 1920 года. У 1920-1921 гадах належаў да правай групоўкі П.Алексюка, пасля развалу якой аказаўся ў ізаляцыі. Пасля грамадзянскай вайны жыў у Заходняй Беларусі, працаваў у Вільні настаўнікам, займаўся літаратурнай і грамадскай дзейнасцю. У верасні 1921 года удзельнічаў у Першай Усебеларускай канферэнцыі ў Празе. З Вільні часта прыязджаў у родную вёску, у якой арганізоўваў вечарыны, ладзіў спектаклі, чытаў свае вершы, іграў на скрыпцы. У 1920-я гады знаходзіўся ў апазіцыі да польскага ўрада Ю.Пілсудскага. У 1926 годзе быў арыштаваны польскімі ўладамі. У час турэмнага зняволення яго жонцы грашовую дапамогу аказваў С. Рак-Міхайлоўскі праз Зоську Верас, што дае падставу меркаваць пра сувязь Макара Краўцова з Беларускай сялянска- работніцкай грамадой. Выйшаўшы на волю, доўга шукаў работу, нідзе не працаваў. З 1927 года працаваў у Віленскім беларускім навуковым таварыстве.

**«Мы выйдзем шчыльнымі радамі»** — *нацыянальны гімн Беларускай Народнай Рэспублікі. Упершыню быў апублікаваны 30 кастрычніка 1919 года ў газеце «Беларусь» пад назвай «Ваяцкі гімн»*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!
Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.
На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой — усе да аднаго!
Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.
Браты, да шчасьця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй!

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР з кастрычніка 1939 года працаваў у рэдакцыі газеты "Віленская праўда". У канцы 1939 года арыштаваны разам з іншымі дзеячамі беларускага вызваленчага руху – А.Луцкевічам, Я. Пазняком, С. Буслом, А.Трэпкам, В. Грышкевічам, У.Самойлам, быў вывезены ў Беласток, дзе загінуў у турме ад катаванняў. Матэрыялы пра яго рэпрэсіраванне і абставіны смерці не выяўлены. Жонка Макара Краўцова Ганна Станіславаўна таксама ўдзельнічала ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху.

Літаратурную дзейнасць Макар Краўцоў пачаў у 1918 годзе. Першыя вершы і апавяданні Макара надрукаваны ў газеце "Вольная Беларусь". Друкаваўся ў газетах "Вольная Беларусь", "Звон", "Беларусь", "Наша думка", "Беларуская крыніца", "Сялянская ніва", "Беларускае слова", "Родны край", а таксама ў часопісах "Рунь", "Маланка", "Беларуская культура", "Шлях моладзі" і іншых. Макар Краўцоў напісаў літаратуразнаўчыя артыкулы пра творчасць Я.Купалы, Я Коласа, М.Багдановіча, У.Жылкі, К. Сваяка, К.Буйло, Ядвігіна Ш., А.Гаруна, Цёткі і іншых. Ён з'яўляецца аўтарам успамінаў пра дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху І.Луцкевіча, А.Астрамовіча, П.Крэчаўскага, А.Гаруна. Пісаў Макар Краўцоў аб Усебеларускім з'ездзе 1917 года. Выступаў пад псеўданімамі Дзын-Дзылін, Звончык Макар, Язэп Светазар, Picolo, Smreczynski, пад крыптанімамі З-ык, К.М., Кр.М, М.К. Палітычныя погляды і ідэйна-творчыя прынцыпы Макара Краўцова былі непаслядоўныя, супярэчлівыя. Рэальнай праграмы змены грамадства не меў. Адсюль у яго паэзіі разгубленасць, адчай.

Рукапісы Макара Краўцова часткова зберагаюцца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы, Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Беларусі.



**"Краўцоў Макар – паэт, аўтар беларускага гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".**
*Анатоль Змітравіч Крывенка (1942, Мінск). ДВП, алей. 40х30. 1994.*

# 1 верасня 1939 года ў Паставах

**72 гады таму назад пачалася Другая сусветная вайна, якая сталася магчымай дзякуючы змове Сталіна з Гітлерам (пакт Рыбентропа-Молатава). Досвіткам першага верасня 1939 года, Германскі Вермахт, паводле загадзя распрацаванага плана «WEISS», уварваўся ў Польшчу.**

Напярэдадні вайны, 22 жніўня 1939 г., Гітлер выступіў перад сваімі генераламі з прамовай, якая пачыналася такімі словамі: *«1 верасня пачнецца напад на Польшчу. Знішчэнне гэтай краіны – наша найпершая задача. Нават калі на Захадзе ўспыхне вайна, нашай першай задачай будзе знішчэнне Польшчы. Ніякай літасці. Будзьце жорсткія. Будзьце бязлітасныя. Мы павінны выйсці да рэк Вісла і Нараў. Улічваючы нашу ваенную перавагу, мы разграмім палякаў. Мы павінны разбурыць усе цэнтры польскага супраціву. Наша мэта – поўнае знішчэнне Польшчы…»*.

Польскае войска, якое саступала нямецкаму як па колькасці, так і па якасці ўзбраення, аказала захопнікам мужны супраціў. Простыя салдаты і афіцэры выяўлялі на палях бітваў масавую гераічнасць. Досыць успомніць абарону Вестэрплятэ, баі пад Ізбіскам, абарону ўмацаванага раёна «Wizna», Брэсцкай крэпасці, паўвострава Хель і г.д.

Нягледзячы на тое, што кампанія супраць Польшчы паспяхова развівалася, Германскае камандаванне мела прычыны для турботаў. На 4-ы дзень баявых дзеянняў еўрапейскія дзяржавы абвясцілі вайну Трэцяму Рэйху. Акрамя таго, хуткі адыход Польскага войска на ўсход ставіў пад сумнеў рэалізацыю асноўнага прынцыпу плана «WEISS» - знішчэнне галоўных польскіх сілаў заходней ракі Віслы. Сярод нямецкіх генералаў паўсталі спрэчкі адносна планаў далейшага вядзення вайны. Генерал Рундштэт, камандуючы групай войскаў «Поўдзень», меркаваў, што палякі паспрабуюць арганізаваць абарону за Віслай і Саном, таму ён настойваў на паскарэнні тэмпаў пасоўвання ўглыб польскай тэрыторыі. Па меркаванні ж начальніка генеральнага штаба Гальдэра, належала лічыцца з моцным польскім супраціўам у раёне Лодзі і Кельцэ. У канчатковым выніку ўсё ж было вырашана кіраваццa першапачатковым планам (Weiss), які прадугледжваў ліквідацыю асноўных сіл польскага войска заходняй Віслы.

А вось што ў гэтыя трагічныя дні адбывалася ў Паставах. Пра напад гітлераўскай Нямеччыны, жыхары горада пазналі па радыё. Прэзідэнт краіны Ігнацы Масьціцкі выступіў са зваротам да народа. Была абвешчана мабілізацыя. Настрой у мабілізаваных рэзервістаў быў баявы. Ніхто не сумняваўся ў перамозе над ворагам. Яшчэ раней, 24 жніўня, быў падняты па трывозе 23-і кавалерыйскі полк, які стаяў у Паставах. Пагрузіўшыся на станцыі ў вайсковыя эшалоны, полк адправіўся на захад, у распараджэнне рэзервовага войска «PRUSY». Касцёл у Паставах быў перапоўнены народам. На алтары гарэлі свечкі. Людзі засяроджана маліліся. Відавочца тых трагічных падзей, пастаўчанін Станіслаў Юркаўлянец, успамінаў: *«Калі немцы напалі на Польшчу, то заняткі ў нашай гімназіі адмянілі. Мы капалі ў гародах акопы і заляплялі вокны палоскамі паперы, таму што асцерагаліся, што немцы могуць ужыць атрутныя газы. Пачалася мабілізацыя. Улады рэквізавалі ўсе аўтамабілі, а прызыўнікі-рэзервісты на вазах адпраўляліся на захад, на фронт. У людзей быў высокі запал і ўпэўненасць у тым, што мы пераможам»*. З пачаткам вайны ўлады звярнуліся да народа з заклікам па ахвяраванні на патрэбы абароны. Людзі прыносілі ў Пастаўскае аддзяленне дзяржбанка не толькі грошы, але і ювелірныя ўпрыгожванні (хутчэй за ўсё пазней, 18 верасня, усе сабраныя каштоўнасці патрапілі ў рукі рускіх). Павятовая адміністрацыяабвясціла пра закупы для патрэб войска збожжа, сена, бульбы і хатняй скаціны. Эканоміка Польшчы перабудоўвалася на ваенныя рэйкі. Яшчэ нішто не прадвяшчала трагічнай развязкі, велізарных чалавечых ахвяр і 4-га падзелу краіны.



*Паводле Westki.info*

# Сусветнае анлайн-галасаванне за лагатып правоў чалавека – да 17 верасня




Пачынаючы з мая 2011 г., праводзіцца міжнародны анлайн-конкурс па стварэнні лагатыпу правоў чалавека. Было даслана 15 375 прапаноў па афармленні лагатыпу з больш чым 190 краін.

Праекты 10 фіналістаў, якіх выбрала журы, вылучаны на галасаванне! З 27 жніўня па 17 верасня 2011 г. на сайце www.humanrightslogo.net кожны можа прагаласаваць за свайго фаварыта.

Лагатып-пераможца будзе прадстаўлены 23 верасня 2011 г. у Нью-Ёрку падчас сесіі Генеральнай асамблеі ААН.

Галасуйце на сайце www.humanrightslogo.net

**НАРОДНАЯ ПРАГРАМА**
www.prahrama.by



**Упэўнены, што, прачытаўшы загаловак “Паветы ці ваяводствы?”, шмат хто скажа: гэтая тэма яго не цікавіць. Ой, не спяшайцеся! Гэтая тэма датычыць кожнага з нас. А менавіта тое, ці застанецца Глыбокае захудалым райцэнтрам, з якога будзе з’язджаць моладзь, прадпрымальныя людзі, добрыя спецыялісты і ён будзе занепадаць, альбо ён стане ў будучым сталіцай адной з адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак краіны – павета ці ваяводства? Дапусцім, сталіцай! Вось тут і спатрэбяцца шматлікія спецыялісты, якія для самарэалізацыі і кар’еры цяпер пакідаюць не толькі Глыбокае, але і Браслаў, Докшыцы, Паставы… Будзе развівацца бізнес, культура, адукацыя, а горад набудзе рэпрэзентатыўны “сталічны выгляд”.**

# Паветы ці ваяводствы?

## Погляд з Глыбокага

■ Уладзімір Скрабатун

На працягу не аднаго дзесяцігоддзя штораз узнікае пытанне аб эфектыўнасці адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі. З кожнымі новымі прэзідэнцкімі выбарамі кандыдаты ў прэзідэнты (напрыклад, спсп. Міхалевіч і Рымашэўскі) уключаюць ў сваю перадвыбарчую праграму пытанне новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу краіны.

Ёсць некалькі канцэпцый. Адны аналітыкі – за 12-15 ваяводстваў, іншыя за 24-26* паветаў. Што лепш, што эфектыўней: 12-15 ваяводстваў ці 24-26 паветаў? Ужо гэта паказвае, што спрэчка аб новым адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле краіны насамрэч актуальная.

### Вытокі пытання

Спрэчка ўзнікла не сёння. Яна зыходзіць яшчэ з БССРаўскіх часоў. І пачаткам было заніраванне абласцей. Яскравы прыклад: у Віцебскай вобласці – 4 занальныя архівы: Віцебск, Орша, Полацк, Глыбокае. Такім чынам складаецца і эканамічны патэнцыял Віцебскай вобласці. Буйныя прамысловыя цэнтры: Віцебск, Орша, Полацк (+Наваполацк), Глыбокае.

У сваю чаргу да занальнага цэнтра, якім ёсць Глыбокае, падпадаюць у залежнасць 6 раёнаў паўночна-заходняй часткі Віцебскай вобласці. Тут нямала занальных прадпрыемстваў і ўстановаў. Да Глыбоцкіх Электычных Сетак (ГЭС) належаць не толькі слупы і драты ЛЭП, электрападстанцыі, але і гідраэлектрастанцыі ў Браслаўскім раёне. А гісторыя саміх ГЭС сягае ў 1912-13 гг, калі граф Зіберг-Плятэр у Лужках на рацэ Мнюта узвёў 2 першыя ў нашым краі электрастанцыі. Адна жывіла мястэчка Лужкі, другая – яго маёнтак Гарадзец.

Да шэрагу занальных прадпрыемстваў і ўстановаў можна аднесці і Глыбоцкі МКК, камбікармовы завод, а таксама ДАІ і КДБ.

Глыбокае – вузел важных шашэйных дарог, чыгуначная станцыя. Як бачым, Глыбокае – гатовая рэгіянальная сталіца для новага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу Беларусі. Сталіцай чаго – павета ці ваяводства?

### Вялікі горад забірае рэсурсы

У вялікім горадзе заўсёды больш магчымасцяў атрымаць належную адукацыю і знайсці працу з высокім заробкам, рэалізаваць свой творчы і прафесійны патэнцыянал, зрабіць кар’еру. І што нямалаважна – велізарныя магчымасці знайсці сабе па душы спадарожніка (цу) жыцця. У вёсцы такой магчымасці няма, у райцэнтры яна – мізэрная.

Куды падацца? У вялікі горад! Вось і пусцеюць цэлыя рэгіёны. Выміраюць не толькі вёскі, але і райцэнтры.

Для нагляднасці возьмем такі характэрны прыклад: Расонскі раён нашай вобласці. Насельніцтва – 11 514 чал. (паводле апошняга перапісу), райцэнтр г.п. Расоны – 5,4 тыс. чал., плошча раёна – 1926,87 км² (9-е месца ў вобласці). Параўнаем з такой дзяржавай, як Ліхтэнштэйн: насельніцтва – 35 870 чал., сталіца Вадуц – 5100 чал., плошча – 160,4 км².

Заўважылі? Расонскі раёну 12 разоў большы, чым тая краіна Ліхтэнштэйн. І ў краіне гэтай урадлівай зямлі – “з Гульчын нос”! Ліхтэнштэйн – горная краіна.

Апаненты скажуць: ну і што з таго! Ліхтэнштэйн – краіна з усімі яе атрыбутамі, і тут павінна быць больш насельніцтва! Добра! Бяром Глыбоцкі раён і параўноўваем яго з Расонскім. Глыбоцкі раён: насельніцтва – 41 043 чал., райцэнтр г. Глыбокае – 18,2 тыс. чал., плошча раёна – 1759, 58 км² (12-е месца ў вобласці). Глыбоцкі раён меншы па плошчы, а насельніцтва ў 3,5 разы больш! Чаму? Глыбокае – развіты прамысловы цэнтр, 5-е месца ў вобласці пасля Віцебска, Оршы, Полацка і Наваполацка. Тут і кошты на набыццё жылля параўнальныя з вялікім горадам. Глыбокае па сваіх магчымасцях у разы пераўзыходзіць Расоны. Тут лягчэй знайсці працу, арганізаваць бізнес. Пры гэтым Глыбокае і Расоны маюць аднолькавы статус, яны – райцэнтры.

Вось яна – эфектыўнасць выкарыстання тэрыторый! Віцебск, Гродна, Брэст, Магілёў, Гомель і Мінск – фактычна “гарады-вампіры”. Цягнуць на сябе людскі, эканамічны і інтэлектуальны патэнцыянал. Тэрыторыі не развіваюцца!

Сістэма «вялікіх абласцей» стымулюе рост абласных цэнтраў і Мінска коштам рэгіёнаў, што павялічвае дысбаланс развіцця паміж гарадамі рознага ўзроўню. Адбываецца стрымліванне рэгіянальнага развіцця, што абмяжоўвае рынкавую базу для эканамічнага росту краіны ў цэлым. Нягнуткасць і неэфектыўнасць пры вырашэнні шэрагу мясцовых задач з-за занадта вялікай аддаленасці раёнаў ад абласной адміністрацыі. Паставы, напрыклад, за 268 км ад г. Віцебска і за 190 км ад г. Мінска.

Заўвага:

* Буйны горад, такі, як напрыклад Мінск, можа быць выведзены ў асобную адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку.

### А як там, у Еўропе?

Параўнаем Беларусь не з краінамі постсавецкай прасторы, а з краінамі Заходняй Еўропы.

**Беларусь:** плошча – 207 560 км² (84-я ў свеце); насельніцтва – 9 млн 471,9 тыс.; сталіца – Мінск – 1 864 100 чалавек. Рэспубліка Беларусь падзяляецца на 6 абласцей, вобласці падзяляюцца на раёны і гарады абласнога падпарадкавання. Агульная колькасць раёнаў ва ўсіх абласцях складае 118, а гарадоў абласнога падпарадкавання — 12. Горад Мінск з’яўляцца самастойнай адмінстрацыйнай адзінкай, якая не ўваходзіць ні ў адну вобласць. Шчыльнасць насельніцтва ў краіне - 45,6 чел./км².

**Венгрыя:** плошча – 93 030 км² (109-я ў свеце); насельніцтва – 10,4 млн. чалавек; сталіца – Будапешт – 2,1 млн. чалавек. Адмістрацыйны падзел – дзевятнаццаць абласцей (мед’е) і шэсць гарадоў, якія маюць статус вобласці (у тым ліку і сталіца Венгрыі — Будапешт). Шчыльнасць насельніцтва краіны – 107,7 чел./км².

**Чэхія:** плошча – 78 866 км² (115-я ў свеце), насельніцтва – 10 532 770 чал., сталіца – Прага (1 291 000 чалавек), Чехія складаецца з 13 краёў (kraj) і сталіцы (hlavní město). Краі, у сваю чаргу, дзеляцца на 77 раёнаў. Раёны складаюцца з муніцыпалітэтаў (абшчын). Шчыльнасць насельніцтва краіны – 133 чал./км².

**Славакія:** плошча – 48 845 км² (126-я ў свеце), насельніцтва – 5 424 925 чал., сталіца – Браціслава – 431 061 чалавек, 8 краёў (kraj), якія называюцца па імені свайго адміністрацыйнага цэнтра. Краі падзяляюцца на некалькі раёнаў (okres). Усяго ў Славакіі цяпер 79 раёнаў. Шчыльнасць насельніцтва – 111 чал./км².

Прыведзеныя лічбы красамоўна паказваюць сапраўдны стан рэчаў. Яшчэ больш красамоўную карціну мы ўбачым, калі параўнаем Віцебскую вобласць, якая па плошчы (40,1 тыс. км²) амаль роўная Славакіі (48,8 тыс. км²). У Віцебскай вобласці насельнікаў – 1 231 000 чалавек, у Славакіі – 5 424 925 чал., Шчыльнасць насельніцтва адпаведна: 30,7 чел./км² і 111 чал./км². У Віцебскай вобласці – 21 раён, Славакія падзеленая ж на 8 краёў. Славацкія раёны (79) да ўвагі не бяром, бо невядома, які яны маюць статус, мо гэта адпавядае статусу нашага сельсавета (воласці). Аднак, калі зрабіць нямудрыя арыфметычныя падлікі (48 845 км²: 8 краёў = 6 106 км²), мы ўбачым, што адзін сярэдні славацкі край роўны 3,5 Глыбоцкім раёнам (1 760 км²).

*Працяг на стар. 11*




У Чэхіі, якая па плошчы ў 1,9 разы пераўзыходзіць Віцебскую вобласць Беларусі – трынаццаць абласцей (краёў).




У Венгрыі, якая па плошчы ў два разы пераўзыходзіць Славакію і Віцебскую вобласць Беларусі – дзевятнаццаць абласцей (мед’е).




У Славакіі, якая па плошчы амаль роўная Віцебскай вобласці – 8 тэрытарыяльных адзінак (краёў).

# «Сямейны падрад»

■ А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Яшчэ падчас Савецкага Саюза для павышэння прадукцыйнасці і эфектыўнасці працы савецкіх грамадзянаў у краіне была арганізавана праца па прынцыпе «сямейнага падраду», г.зн. збіраліся бацька, сын або іншыя сваякі ў адну брыгаду і працавалі на канчатковы вынік, эфект быў дадатны.**

Вось і «героі» нашага сюжэта гэтак жа арганізавалі «сямейны падрад». Толькі крымінальны.

Дваждыжары Пастаўскага раёна, сваякі, якія працуюць у адной са стабільных арганізацый раёна, ААТ «Рыбгас «Навінкі» вырашылі, што толькі адной добрай зарплаты за іх тытанічную працу мала, бо сваёй «гераічнай працай» яны трымаюць увесь рыбгас, а плацяць ім недастаткова. Таму, калі яны ўдвах і возьмуць крыху выгадаванай рыбкі, нічога з рыбгасам не здарыцца. 29 жніўня пасля сканчэння працоўнага дня нашы «героі» (назавём іх К. і П.) наклалі сабе ў торбы карпаў, К. паклаў сабе 14 кг, бо ён маладзейшы і есці яму трэба больш, ну а «герой» П. узяў сабе 6 кг карпа, але затым падумаў і вырашыў, што адных карпаў будзе мала, трэба яшчэ і камбікорму ўзяць дахаты, бо дома хатнія жывёлы, яны таксама хочуць есці. Насыпаўшы ў мяшок 23 кг камбікорму, нашы «героі» К.і П. з думкамі пра сумленна выкананы працоўны абавязак, паехалі дахаты, толькі не думалі і не гадалі, што іх на выездзе з гаспадаркі ўжо чакаюць работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Вынік працоўнага дня нашых сваякоў – пратаколы за крадзеж сажалкавай рыбы і камбікорму. А ці застануцца такія работнікі ў гаспадарцы, вырашыць кіраўніцтва, бо выкралі нашы «героі», па сутнасці, у сябе саміх і ў такіх жа працоўных, як самі.

Ёсць у Глыбоцкім раёне вадасховішча «Азерцы», вельмі багатае рыбай, рыбакоў тут заўсёды вельмі шмат. Увесну цяперашняга года вадаём узяла ў арэнду мясцовая гаспадарка для арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства і рыбаводства. Усё пайшло добра, прыбытак ад рыбалоўства ішоў у гаспадарку, рыбаловы былі задаволеныя. Аднак аднаму кіраўніку сельскагаспадарчага прадпрыемства паспець усюды немагчыма, а добрасумленных і талковых памочнікаў у дырэктара гаспадаркі так і не знайшлося, таму вадаём практычна застаўся без аховы. Браканьеры хутка дапетрылі, што можна пажывіцца. І вось амаль кожны тыдзень супрацоўнікі міжрайінспекцыі затрымоўваюць парушальнікаў з сеткамі, уловы ў іх вялікія. Напачатку жніўня затрыманы жыхар г. Полацка, які спрабаваў паставіць браканьерскія сеткі на вадасховішчы, але яго незаконныя дзеянні спынілі супрацоўнікі міжрайінспекцыі. 30 жніўня супрацоўнікі інспекцыі правядзілі чарговы рэйд на вадаёме і каля 23 гадзін ночы сумесна з супрацоўнікамі міліцыі затрымалі мясцовага жыхара, які пры дапамозе 4 сетак здабыў 121 кг карася срэбнага. Матэрыялы накіраваны ў следчыя органы.

Парушальнікі вырашылі, што калі гаспадар вадаёма не можа забяспечыць ахову, значыць, можна беспакарана карыстацца прыроднымі багаццямі. На любым вадаёме, у лесе, на зямлі ёсць гаспадар – дзяржава, а кантроль за захаванасцю дзяржаўнай уласнасці ляжыць на дзяржорганах, у тым ліку міліцыі і міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету і іншых прыродаахоўных структурах. Толькі агульнымі высілкамі дзяржаўных органаў і грамадзян мы зможам навесці парадак на нашай зямлі і захаваць прыроду будучым пакаленням.

Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 8-02156-28670 «гарачая лінія» - кругласутачна.

# Свята вёскі Перадолы

■ Яўген Самсонаў

**Калі не памыляюся, то для жыхароў вёскі Перадолы 4 верасня 2011года адбылася самая ўрачыстая падзея за час незалежнасці Беларусі – Свята вескі Перадолы.**

У Глыбоцкім раёне налічваецца 398 населеных пунктаў, і адзначаць свята вёсак стала традыцыяй. У акрузе, дзе ёсць сельскія дамы культуры, такія мерапрыемствы ладзяць мясцовыя культработнікі. У аддаленых вёсачках – праводзяцца выязныя мерапрыемствы аддзела культуры Глыбоцкага райвыканкама.

### Крыху гісторыі

Згодна маючых звестак, у 20-я гады малітоўны дом старавераў у Перадолах, які дарэчы захаваўся і на сённяшні дзень, наведвалі звыш 400 вернікаў. Але гэта хутчэй за ўсё была не вёска, а сістэма хутароў. За польскім часам, а дакладней, у 1939 годзе вёска Перадолы налічвала толькі 12 двароў.

Буйное развіццё вёскі прыпадала на другую палову мінулага стагоддзя. Людзей зганялі з навакольных хутароў у калгас. Былі пабудаваны школа, будынак праўлення калгаса і клуб, адкрыты магазін, ФАП, аддзяленне КБА, дзіцячы садок, будавалася жыллё.

На сённяшні дзень у вёсцы засталіся толькі магазін і ФАП. З жыхароў – 103 чалавекі, у асноўным пенсіянеры ці блізкія да гэтага ўзросту. Дзяцей да 16-гадовага ўзросту – усяго толькі 11.

Свята вёскі Перадолы праходзіла ў атмасферы сяброўства і добразычлівасці. Было бачна, што вядучая свята, загадчыца выязных мерапрыемстваў аддзела культуры Глыбоцкага райвыканкама, Аліна Юргель напярэдані пабывала ў кожным доме і ведала пра кожнага з мясцовых жыхароў усё да драбніц. У прывітальнай прамове яна выказала падзяку ўсім, хто спрычыніўся да арганізацыі ўрачыстасці.

Сардэчна віталі прысутныя старшыню Падсвільскага пасялковага савета Валянціну Пальчанку і старэйшыну вёскі Валерыя Драздовіча. Завітала ў сваю родную вёсачку і вядомы культработнік Наталля Барыла (Рудак), каб павіншаваць бацькоў і сяльчан са святам і парадаваць іх сваім выступленнем.

Хвілінай маўчання была ўшанавана памяць загінуўшых падчас ВАВ. Згадвалася і імя Аляксандра Дзехцярова, які загінуў падчас выканання інтэрнацыянальнага абавязку ў Афганістане. Цяпер цэнтральная вуліца вёскі Перадолы носіць яго імя.

Самы старэйшы жыхар вёскі, Уладзімір Іванавіч Партноў, распавёў пра цяжкасці сялян пасляваеннага часу і перадаў самаму маладому жыхару Перадолаў, Ксеніі Марцынкевіч, ліст з наказам, каб яе пакаленне берагло і шанавала вёску.

Галоўныя героі свята, канешне ж, яе жыхары, працаўнікі-руплівцы. Было названа шмат імёнаў і сямейных дынастый, сярод якіх сем'і Науменкаў, Рудакоў, Драздовічаў.

Асаблівая ўвага была ўдзелена жанчынам, сапраўдным гаспадыням. Аляксандра Паўлаўна Марцынкевіч, Ніна Афінагееўна Пусатыннікава, Ганна Уладзіміраўна Івашчонак, Альжбета Макараўна Гаравая, Марыя Яфімаўна Рудак, Марыя Мікалаеўна Курылёнак, Ірына Рыгораўна Лапа – далёка не ўвесь пералік паважаных жанчын, вартых пашаны.

На жаль, з-за восеньскай рупнасці ці па іншых прычынах не ўсе змаглі прысутнічаць на святе і асабіста атрымаць ва ўрачыстай абстаноўцы заслужаныя каштоўныя падарункі.

Свята суправаджалася песнямі артыстаў хору народнага клуба "Маналіт" Глыбоцкага ГДК пад кіраўніцтвам Тамары Калантай.





# Кліча крыніца Святога Яна

У нядзелю, 11 верасня, а 9-й гадзіне на крыніцы Святога Яна (Чарневічы) адбудзецца фэст у гонар памяці Іаана Хрысціцеля. Будзе праведзена служба, асвячэнне вады. Усе жадаючыя змогуць набраць святаянскай вады і пакупацца ў гаючай крыніцы.

**Запрашаем!**

*Вернікі Чарневіцкага прыходу.*



Фота Ул. Скрабатуна

# У Глыбокім знікаюць з продажу каўбасы

■ Кастусь Шыталь

**З паліцаў большасці прыватных крамаў у Глыбокім знікла мясная прадукцыя. Аўтар гэтых радкоў паспрабаваў высветліць, чаму так сталася.**

У краме "Тэхас", што ў Беразвеччы, мясныя паліцы зусім пустыя. Прадаўцы распавялі, што мясакамбінат перастаў прадаваць сваю прадукцыю прыватным крамам.

Тое ж самае кажуць і ў краме "Трыа", што каля касцёла. Мяса і каўбасаў тут няма, а паліца з шыльдачкай "Прадукцыя Глыбоцкага мясакамбіната" закладзена пакетамі з малаком.

Няма каўбас і ў краме "Арбузік" на вуліцы Леніна. Прадаўцы таксама спасылаюцца на рашэнне кіраўніцтва мясакамбіната спыніць продажпрыватным фірмам. Па неафіцыйнай інфармацыі, такі загад прыйшоў з Віцебскага аблвыканкама.

Спроба атрымаць каментар ад кіраўніцтва мясакамбіната аказалася марнай. Аўтар матэрыялу паспрабаваў наведаць аддзел маркетынгу прадпрыемства, аднак яго не пусцілі ў будынак. Датэлефанавацца таксама не ўдалося – званок пераадрасоўваюць на нумар, па якім ніхто не адказвае.

Пакуль што набыць мяса ў Глыбокім можна ў дзвюх фірмовых крамах мясакамбіната і ў дзяржаўных гандлёвых кропках. Але і там выбар прадукцыі зменшыўся, а кошты значна ўзраслі. У аўталаўках, якія абслугоўваюць невялікія вёскі, набыць мясную прадукцыю бывае вельмі складана. Парабоі з пастаўкамі мяса назіраюцца не толькі ў Глыбокім, але і па ўсёй Беларусі.

